# Самапомач

Беларуская кооператыўна-гаспадарчая часопісь

| Год III. | Вільня, Красавік 1934 г. | № 4. |
|---|---|---|


*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй*
*засявай!..*

ЯНКА КУПАЛА



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.*

*Джордж* РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ № 4(21).



## Цэны у Вільні.

*18 IV.34 г.*

**Збажжовыя.**
*За 100 кілё.*

| | |
|---|---|
| Жыта II, станд. | 14.— |
| Пшаніца зьбіраная | 19.50 |
| Мука житняя 55 проц. | 24.— |
| Мука житняя 65 проц. | 19.— |
| Семя льнянае, сяўбовае | 70.— |

**Малочныя, яйкі.**

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае за кілё ў гурце | 2.50—2.60 |
| у дэтаталю | 3.00 |
| Масла сталовае у гурце | 2,30—2.40 |
| „ „ у дэталю | 2.80 |
| Масла салёнае у гурце | 2.40— 2.50 |
| „ „ у дэталю | 2.90 |
| Сыры наваградзкія у гурце за кілё | 1.70—2.20 |
| „ „ у дэталю | 2.—2.60 |

**Мясны рынак**
*за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Валовіна, бітая вага, за кілё | 0.75— 0.80 |
| Валовіна, перады (кашэрнае) | 1.20— 1.40 |
| Цяляціна | 0.60— 0.75 |
| Сьвініна | 1.10— 1.25 |
| Скуры быдлячыя сьвежыя за кілё | 0.90— 4.15 |
| Скуры цялячыя, за штуку | 4.00 -4.15 |

# „Самапомач“

Часопісь выходзіць раз у месяц.

## Падпісная плата аднаго экзэмпляра каштуе:

На год . . . . . . . 3.— зл.
На паўгода . . . . . 1.75 „
На 3 месяцы . . . . . 1.20 „

Заграніцу — ўдвая даражэй.
Цана асобнага нумару 40 грашоў.
Цана абвестак паводле ўмовы.

Коопэратывы, гурткі і прыватныя асобы, што выпісваюць на адзін адрэс найменш 10 экзэмпляраў „Самапомачы“ (кампдект), плацяць за экзэмпляр толькі 1.20 зл. за 10 экз. 12 зл. Пакуль хопіць запас, да кожнага камплекту (дзесятка) будзе бясплатна далучаны адзін **Беларускі Адрыўны Календар на 1934 г.**, а за даплатай 1 зл. **і гадавік „Самапомачы“ за 1933 г.**

Грошы на «Самапомач» пасылаць на чэкавае конто інж. Клімовіча у П.К.О. Nr 180.485, а ўсякія пісьмы — на адрэс:

Redakcyja „Samapomač“, Vilnia, Połackaja vul. 4—10
(Wilno, Połocka 4—10).

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 9-ай да 11-ай гадз. дня.

Samapomač — BIEŁARUSKAJA KOOPERATYŬNA-HASPADARČAJA ČASOPIŚ.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

# Самапомач

| Hod III. | Vilnia, Krasavik 1934 h. | Nr. 4 (21). |
| --- | --- | --- |

# АДОЗВА
## Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

**БЕЛАРУСЫ!**

Збуджаны да новага жыцьця Беларускі народ пачаў будаваць для сябе лепшую будучыню. Думка народна-палітычнага адраджэньня глыбока ўскалыхнула народныя масы і паклікала старэйшае і маладзейшае грамадзянства, сялян, работнікаў і інтэлігенцыю да згоднай працы над будаўніцтвам свайго Вялікага Народнага Дому — сваей Бацькаўшчыны.

Але як у кожнай будове патрэбен фундамант, бо бяз фундаманту будова ня мае моцы і трывалкасьці, то таксама патрэбен фундамант пры будове Беларусі.

Фундамантам, на каторым апіраецца існаваньне кожнага народу, ёсьць ягонае гаспадарчае і культурнае жыцьцё. А трэба сьцьвердзіць, што ў гаспадарчым і культурным жыцьці Беларускі народ адстаў ад другіх народаў. Прычынай гэтай адсталасьці ёсьць ня толькі варожыя адносіны нашых дужэйшых суседзяў, якія, доўга трымаючы наш народ пад сваей уладай, ня дбалі аб яго гаспадарчым і культурным разьвіцьці, але так жа і сам народ Беларускі дагэтуль дружна ня рупіўся аб палепшаньні свайго палажэньня. Народ наш, пакінены даўней праз сваё баярства, а цяпер праз большую часьць свае інтэлігенцыі, якая пайшла на службу да чужых, ня ведаў і не разумеў патрэбы свайго гаспадарчага і культурнага жыцьця.

Але знайшліся людзі, якія не адчураліся свайго народу і пачалі працу над адраджэньнем свае Бацькаўшчыны. Праца гэта цягнецца ўжо некалькі дзесяткоў гадоў і дала вялікія плады. Цяпер ужо ўсюды па нашым краі відаць вялікае ўсьведамленьне і ахвоту да працы. Не хватае яшчэ аднэй рэчы: **дружнай арганізацыі.**

Закладаць фундамант і будаваць Вялікі Дом людзі паадному і ў россып ня могуць, тут патрэбна сільная арганізацыя, бо без арганізацыі ня творацца вялікія рэчы. Нават многамільённая маса, сьведамая і ахвочая да працы, але незарганізаваная, не патрапіць нічога зрабіць для агульнага дабра.

У арганізацыі сіла. Праз арганізацыю ўсе народы будавалі сваё гаспадарчае і культурнае жыцьцё.

Беларусы! Каб падняць гаспадарчае і культурнае жыцьцё нашага народу **і нам патрэбна арганізацыя.**

Такою арганізацыяй ёсьць **Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.**

Інстытут, ад самага пачатку свайго існаваньня (ад 1926 году), ішоў у народныя масы, закладаючы гурткі і гэтак пашыраючы ў народзе думку аб патрэбе гаспадарчага і культурнага адраджэньня. Але гэтага мала. Трэба ня толькі пашыраць думкі аб патрэбе адраджэньня, але **трэба тварыць гэтае адраджэньне**, трэба залажыць навуковы цэнтр, дзе-б можна было распрацоўваць ідэолёгічныя асновы гаспадарчага і культурнага адраджэньня Краю.

І такі навуковы цэнтр стварыўся. Дня 18 сакавіка г. году, на агульным Сходзе Рады Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, былі пакліканы да жыцьця чатыры навуковыя сэкцыі, у якіх мае сканцэнтравацца навуковая праца над гаспадарчым і культурным адраджэньнем Беларусі. Запісацца ў сэкцыю і працаваць у ёй можа кожны, хто жадае гаспадарчага і культурнага разьвіцьця Беларусі.

Дык заклікаем усіх, хто хоча працаваць на ніве эканомікі, статыстыкі, этнографіі, археолёгіі, гісторыі, соцыялёгіі, літэратуры і мастацтва... запісвацца ў адпаведныя сэкцыі. Запісвацца могуць асобы ня толькі з Вільні, але і з правінцыі.

Сябры з правінцыі будуць памагаць у працах сэкцыяў, зьбіраючы патрэбныя статыстычныя, этнографічныя, археолёгічныя і іншыя матэрыялы. Апроч гэтага сябры з правінцыі могуць памагаць у працы Інстытуту, зьбіраючы творы матэрыяльнай і духовай культуры народу, як: старадаўныя вопраткі, паясы, тканіны, песьні, казкі, прыказкі і г. п., апроч гэтага вышукваючы старыя кнігі, рукапісы, пісьмы выдатнейшых асоб і пісьменьні-

каў, гадавікі і аддзельныя нумары старых і мала ведамых беларускіх газэт, старадаўныя дакуманты і ўсё, што датычыць нашага Краю. Знайшоўшы ў сваей акрузе нешта вартаснае, трэба паведаміць аб гэтым Інстытут. Усе прысланыя рэчы будуць пераховывацца ў музэі „Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, а прысланыя кнігі—у бібліятэцы Інстытуту.

Дык, Беларусы, да працы! Кожны беларус, бяз розьніцы сваіх палітычных і грамадзкіх праканаеньняў, няхай стане ў рады Інстытуту і працуе паводле сваей магчымасьці ў сэкцыях, аддзелах і гуртках. Усе разам будзем закладаць фундамант пад будову Вялікага Беларускага Народнага Дому! Усе да працы на гаспадарчай і культурнай ніве.

*Цэнтральны Урад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.*

(—) *Кс. В. Гадлеўскі* старшыня (—) *В. Багдановіч* віцэ-старшыня (—) *Др. Б. Грабінскі* віцэ-старшыня (—) *Інж. А. Клімовіч* скарбнік

(—) *А Стэповіч* сэкрэтар (—) *М. Шкялёнак* сябра Ураду (—) *Ст. Станкевіч* сябра Ураду

Вільня, 10 красавіка 1934 году.

---

# Suproć ździeku—žyćciu nasustreč!

Adnej z važnych prymietaŭ kooperatyŭnaha budaŭnictva jość jahonaja j a ŭ n a ś ć. Ci heta dobra ci kiepska — tut nie vyrašajem. Važna toje, što tak jość, z hetym treba rachavacca i rachujemsia.

Bielaruskaja kooperatyŭnaja rabota pačynałasia jšče prad suśvietnaj vajnoj. Paślavajennaja praca ŭ hetym-ža kirunku znaje svaje ŭzdymy (para Vilenskaha Sajuzu Kooperatyvaŭ) i zaniepady. Apošni taki ŭzdym, zapačatkavany samatuham paru hadoŭ tamu nazad pieradusim na zachad Ryskaj miažy, mieŭ, zdavałasia, ŭsie danyja da pamysnaha raźvićcia. Adnak i tut stałasia nie̋šta, što z biespasiaredniaj blizkaści času i miesca nia možna jšče susim točna paznać i aznačyć adpaviednym imiem. Peŭnym tolki jość, što pačatkavy razhon strymany i budučynia — nia susim vyraznaja. Jakaja hetamu pryčyna?

Pieradusim treba hetyja pryčyny padzialić na vonkavyja i ŭnutranyja. Spasiarod vonkavych pryčyn, što tarmoziać naturalnaje raźvićcio

---

# Z padarožy ŭ Daniju.

**Danija — małaja staronka słyvie na cełv śviet z prykładnaha haspadarańnia, choć pryroda nie abdaravała i hetaha kraju nijakimi asablivymi bahaćciami. Dabrabyt stvaryŭ sabie sam Datčanin svaje vytryvałaj pracaj u samaaśviecie i kooperacyi. Nižej padajom uražańni z padarožy ŭ Daniju adnaho polskaha padarožnika, K. Wyszomirskaha: pavinny jany być pavučajučymi i dla sielanina bielaruskaha — r e d.**

...Jak usio-ž vyhladaje heta prasłaŭlenaja danskaja vioska? — Kali my pryjechali—nia tolki haradzkija, ale i ludzi znajučyja viosku — ździvilisia, bačačy pa darozie sialanskija haspadarki, darohi, zabudavańni, aharody, karovy i h. d.

Pradusim, što adrazu kidajecca ŭ vočy — heta dobra ŭtrymanyja darohi — usie asfaltavanyja — naahuł Danija „polskich" daroh susim nia maje. Dalej, pry darohach bačym, što peŭny odstup, šnury ŭstaŭlenych banak z małakom, katoryja zabiraje i advozić u małačarniu aŭto hetaje-ž kooperatyŭnaje małačarni. Jeduč aŭtamabilem, nia bačym anivodnaj karovy raboj — inšaj maści — a ŭsie adnej — tolki čyrvonaj maści. Karovy panavažyvany da kałočkaŭ na pryhožych paśbiščach. Nie patrabujuć pastuchoŭ i nia robiać škody susiedziam, a tak-ža i ŭ svajoj ułasnaj haspadarcy. Paśbišča štučna zakładanaje (naturalnych łuhoŭ Danija nia maje susim) składajecca z travaŭ raślinaŭ matylkovych i travaŭ sałodkich. Dzieci sialanskija, zamiest haniacca za karovami, chodziać u školu — praz heta ŭ Danii niama analfabetaŭ (niahramatnych).

Jeduč praz viosku bačym, što kožnaja haspadarka maje pryhoža aharodžany płotam panadvorak, prad kožnaj chataj cudoŭna zrobleny harodčyk z kvietkami. Što za pryhožy vid! Chatka niaraz sałomaj kryta (sałoma prasiaknuta hlinaj) vyhladaje jak jaki pałac, jak damok u bajcy, siarod hetych roznych hustoŭna dabranych kvietak. Vioska danskaja z takimi harodčykami vyhladaje na harod u mieście. Zaraz-ža za harodam z kvietkami kožnaja haspadynia maje na damovy ŭžytak harod na varyva, u katorym rastuć: truskaŭki, rabarbar, pamidory, ščaŭjo, ahurki, bulba i h. p.

Kali ŭvojdziem na panadvorak, to pabačym, što ŭstrojstva i budovy haspadarskija vielmi prostyja i tannaja: stajni, chlavy, kurniki ŭtrymany ŭ nadzvyčajnaj čystacie, a vialikija vokny prapuskajuć u budovy dosyć śviatła. Va ŭsich haspadarskich zabudavańniach, nie havoračy ŭžo ab ludzkim pamieškańni, jość vada nahanianaja prostym viatrakom abo elektryčnaściaj, jakuju maje kožnaja danskaja vioska.

U žyłym domie nadzvyčajnaja čystata, nichto z damaŭnikoŭ nia śmieje ŭvajści ŭ chatu z botami, u katorych chodzić pa dvaryšču. Datyčyć heta naraŭnie starejšych jak i mała-

kooperacyi na biełaruskich ziemlach, treba ŭ pieršuju čarhu ŭspomnić ab zvužvańni polskaha dziejučaha ŭ nas siahońnia kooperatyŭnaha zakonadaŭstva. Źmiena polskaha kooperatyŭnaha zakonu heta badaj najbolšy vonkavy tormaz dla biełaruskaj — jak i ŭsiakaj inšaj „inšaplamiennaj“ — kooperacyi. — Nia mienšym tormazam jość i zaznačanaja anahdaj (7—8 sakavika s. h.) u pinskim Akružnym Sudzie „raźbiežnaść miž praktykami administracyjnaj ułady... z adnaho boku dy nakazami i ducham kooperatyŭnaha zakonadaŭstva — z druhoha boku“. Voś-ža ab hetaj „raźbiežnaści“ nas paviedamlajuć z usich kancoŭ zach.-biełaruskich ziemlaŭ i ŭsiudy adna pieśnia: kooperacyjaj zanadta „cikaviacca“ administracyjnyja ŭłady. Viedamy ŭžo vypadki, što administracyjnyja ŭłady nie dajuć navat dazvołu na arhanizacyjnaje sabrańnie dziela załažeńnia zvyčajnaj biełaruskaj kooperatyvy (Niahnievičy, Navahradzkaha pav.). Majem ab hetym cikaŭnyja, jak na naš čas i dakumenty, katorymi ŭ svoj čas pastarajemsia padzialicca z našymi pavažanymi čytačami.

Jość adnak važnyja pryčyny zapynieńnia biełaruskaj kooperatyŭnaj raboty i z boku ŭnutranaha. I hetyja pryčyny vielmi balučyja. Z bolšaha padzialić ich možna na pryčyny vynikajučyja z niedastatku ahulnaha kooperatyŭnaha ŭśviedamleńnia i pryčyny tak ci hetak zavinienyja samaj-ža biełaruskaj intelihiencyjaj, katoraj danym było na paasobnych kooperatyŭnych placoŭkach znachodzicca i imi kiravać. Niedastatak ahulna-kooperatyŭnaha ŭśviedamleńnia ŭ duchu samadapamohi siarod šyrejšych narodnych masaŭ — reč susim zrazumiełaja: uśviedamleńnie heta musić-ža niechta systematyčna pašyrać. Samo drukavanaje słova mnoha tut znača, ale ŭsiaho zrabić nia moža. Na heta patrebna słova žyvoje, patrebny čyn; a heta ŭ nas dahetul jość vielmi redkim.

Kali-ž havaryć ab učaści ŭ kooperatyŭnaj rabocie biełaruskaj intelihiencyi, dyk jość tut ludzi, što razumiejuć kooperacyju jak pracu hramadzkuju i joj addana služać. Ale ci-ž nia ma i takich, što pracaj svajej i pastupkami hetkaha zrazumieńnia kooperacyi nie dakazali i nie zdradžajuć nijakich aznak, kab kali-niebudź ich dakazali? — Historyja kališci skaža ab hetym svajo važkaje słova: kab-ža jana nie zakinuła našaj biełaruskaj intelihiencyi, što ŭ rašučuju chvilinu dziela miski sačyŭki ci ambicyi trymaje siahońnia na svaich plačoch kooperacyju čužuju, zamiest družna ŭziacca za stvareńnie kooperatyŭnaha ruchu svajho sobskaha, biełaruskaha!

Tak ci hetak — razhon biełaruskaj kooperatyŭnaj raboty časova zvolnieny. Ci na doŭha? Možna zaryzykavać adkaz, što na tak doŭha, jak doŭha budzie jšci ŭrazbrod, samapasam, biełaruskaja kooperatyŭnaja dumka i jak doŭha nia stvorany budzie lehalny ideovy centr.

---

dych. Chata padzielena na niekalki śviatlicaŭ (pakojaŭ). Chaty z adnej śviatlicaj, abo z dvumia danski sielanin nia znaje.

Najmienšaje pamieškańnie drobnaha (danskaha) sielanina składajecca z kuchni, stałovaj, spalni i pracoŭni; časam pracoŭnia mieścicca ŭ stałovym pakoi. Usiudy pieravažna jość vanna. Bolšyja haspadary, majučyja bolš jak 10 ha ziamli, majuć pakoj specyjalna dla haściej (salon) i pakoi dla starejšych dziaciej, jak i pakoj haścinny.

Śpižarnia (kładoŭka) danskaj haspadyni pierapoŭniena ŭsialakimi vyrabami z varyva i pładoŭ.

Pładaźmien sielanin u bolšaści maje dastasavany da svaje pradusim hadaŭlanaje haspadarki; vyhladaje hetak: Akopniny — karmovyja buraki i bručka, jaravyja — avios i jačmień, najčaściej siejucca razam, jak miašanka i paśbišča. Aziminaŭ siejuć u Danii vielmi mała.

Karovy, katoryja dajuć mienš jak 4 tysiačy litraŭ małaka ŭ hod, mienš jak 4 prac. tłustaha, brakujucca, jak nieapłatnyja. Kury, katoryja nie dajuć u hod 160 jajok, a adno jajko važyć mienš 60 gramaŭ — nia varty hadoŭli — iduć na miasa. Śvini, aprača materyjału hadaŭlanaha, mohuć žyć najvyžej 9 miesiacaŭ — u hetym časie musiać być hatovy na zarez.

Kania trymajuć tolki ŭ bolšych haspadarkach; mienšyja haspadarki abrablajuć pole karovami.

Maniežaŭ i małatarniaŭ danski haspadar susim nia maje — zbožža małocić kooperatyŭnaj paravoj, abo elektryčnaj małatarniaj. Taksama niama ŭ haspadarcy siačkarni, bo žyvioła naahuł nia kormicca siečkaj — dastaje całuju sałomu, abo siena.

Karova ŭ danskaj haspadarcy prypadaje adna na 1 hektar.

Pradukty svajej pracy Datčanin pradaje, a patrebnyja ŭ haspadarcy rečy kuplaje tolki praz svaje kooperatyvy.

Bolšaść haspadyniaŭ nie piače chleba ŭ siabie doma, a robie heta za jaje kooperatyŭnaja piakarnia; taksama i z myćciom chuścia.

Kirmašoŭ, tarhoŭ Datčanin nia znaje, nia viedaje tak-ža jon, što heta znača vystajvańnie z karzinkami, košykami na naśmiešku žydoŭcy abo „paniačcy“, katoraja pakaštuje, pamacuje, pakałupaje tavar, prytym nanaruhajucca kolki choča i ŭreście, u zaležnaści ad liku spekulantak-pierakupščycaŭ pryjechaŭšych na torh, kuplajuć tavar za kolki chočuć. Datčanin usio biespasiaredna adnosić u svaju kooperatyvu, da inšych haspadaroŭ kooperatyva pasyłaje, na telefoničnaje paviedamleńnie, aŭto, abo koniaŭ.

Padumajma, kolki aščadnaści možna mieć na koniach, ludzioch, vazoch i h. p., kali-b u nas sialanie nia „zmušany“ byli być rehularna

biełaruskaj ahulna haspadarčaj dumki, u katorym šlachi hetaje dumki naležna stała vyjaśnialisia-b, razhladalisia i pahłyblalisia.

Sproby šukańnia takoha centru, zapačatkavanyja paŭhoda tamu z lišnim redakcyjaj „Samapomačy", pakazali, što ludzi da hetaha ŭ nas jość, zrazumieńnie vartaści takoha pačynu i achvota samoj pracy — taksama jość. Nie chapała dahetul formy, u jakuju takoje supracoŭnictva mahło-b vylicca. Apošni miesiac času prynios z saboj padziei, jakija faktyčna vyrašyli pozytyŭna i hetu apošniuju pieraškodu: 18-ha sakavika s. h. pry Biełaruskim Instytucie Haspadarki i Kultury ŭ Vilni sarhanizavana była **sekcyja ekanomiki i statystyki**, kiraŭnictva jakoj daručana redaktaru našaj časopisi inžynieru Klimoviču. Užo heta samo pakazvaje, što spravy **kooperacyi** ŭ sarhanizavanaj sekcyi pavinny znajšci naležnaje miesca;'i jany tam jaho chiba-ž znojduć, kali znojduć zrazumieńnie ŭ šyrokich kołach śviedama-biełaruskich kooperatyŭnych pracaŭnikoŭ. Tymbolš, što ŭčaście ŭ pracach Sekcyi nia źviazana navat siabroŭstvam u Instytucie, jak arhanizacyi — taksama nadpartyjnaj i čysta kulturna-haspadarčaj.

Dyk družna da pracy, a praz jaje — da hodnaj čałavieka budučyni.

*„Samapomač" pabolšyłasia — zdabudźcie dla jaje novych padpiščykaŭ!*

# Kooperatyŭnyja naviny.

Z b i e ł. k o o p. T - v a „P č a ł a". Skład Nahladnaj Rady Kooperatyvy „Pčała" na h. hod nastupny: Staršynia — M. Mancevič, vice-staršynia — Darachovič, sekretar — Bindziuk, siabry — inž. Dubiejkaŭski, hram. Šnarkievič i inž. Klimovič. — Uprava T-va hetakaja: Staršynia — L. Vojcikava, skarbnik — M. Paŭłovičycha i sekretar — J. Najdziuk.

D z i e ń k o o p e r a c y i ŭ Polščy pastanavili abchodzić u niadzielu 3 červienia. — Para heta dla vioski nia susim adpaviednaja i daloka lepš takoje śviata ładzić uvosieni.

Z u k r a i n s k a h a k o o p e r a t y ŭ n a h a m a ł a č a r s t v a. 28 sakavika s. h. adbyŭsia hadavy schod centrali ukrainskaj małačarskaj kooperacyi „Masłosojuz". Z spravazdačy T-va vynikaje što dastaŭka masła ŭ „Masłasajuz" z sarhanizavanych małačarniaŭ abnižyłasia ŭ 1933 h, u paraŭnańni z 1932 h., na 3.11 prac., ceny na masła abnižylisia na 11.5 prac, ahulnyja tarhi—na 10.19 prac, košty administracyjnyja — na 10.18 prac., pry hetym u „Masłasajuzie" u 1933 h. pracavała na 34 asoby bolš čym u 1932 h. Čystaja bilansavaja nadvyžka za 1933 h. vynosić 2.958 zł. Ułasnych fondaŭ T-va maje 490.126 zł., čužych — 624.667 zł.

„Masłosojuz", aprača abarotaŭ masłam, u spravazdaŭčym hodzie vioŭ jašče: 1. prodaž syroha (1. 700.000 litraŭ) i pasteryzavanaha (155.000 litraŭ) małaka, 2. syravarniu, 3. bryndzarniu, 4. ptachamiasarniu, 5 prodaž małačarskich mašyn i ŭ 1 6. prodaž jajok. — Małačarskija kursy „Masłasojuzu" skončyli ŭ 1933 h. 23 kandydaty.

„B i a z p r y m u s u r e v i z y i". 6-ha sakavika s. h. praf. St. Vajciechoŭski mieŭ lekcyju na temu: „Varunki kanieśnyja dziela azdaraŭleńnia kooperacyi ŭ Polščy". u jakoj radziŭ miž inšym damahacca: uniezaležnieńnia kooperatyŭnych nizoŭ biaz prymusu revizii; apiryšča na samapomačy; specyjalizacyi; začynać pavodle sił, nia chutka, ale dobra, vymahać nia mnostva, -le jakaści.

na kožnym kirmašy i torzie?! A jość na heta rada — heta viera ŭ salidarnaść — viera ŭ kooperacyju.

Praŭda — danski sielanin znaje kirmašy, ale kirmašy na rasovyja štuki bydła, koni, śvini, abo na ŭsiakich chatnich ptušak — naharodžanych hadaŭlanymi sajuzami.

Sakretam takoj udačy danskaj haspadarki — zdajecca mnie — jość „ałavik". Kožny sielanin viadzie rachunkovaść svaje haspadarki — prakonyvajecca z ałavikom u ruce, što apłačvajecca, a što nie.

Adnačasna z rachavańniem u Datčanina jdzie navuka, a što navuka ŭ Danii cenicca, to padam tolki taki prykład: u haspadara (danskaha) majučaha 30 ha ziamli „pastuch" — jon u nas na falvarku najhoršy złomak — mieŭ skončanych 7 klasaŭ himnazii, 2 hady škoły ziemlarobskaj i Viaskovy Narodny Universytet.

Ziemlarobskuju škołu i Narodny Universytet kančaje blizu kožny sielanin. Nichto na navucy školnaj nie zapyniajecca, a zaŭsiody jdzie da druhoha sielanina „na službu", jak chłopcy, tak i dziaŭčaty. Najbahaciejšy haspadar nia trymaje svajo dzicia pa skančeńni pačatkavaje škoły doma, ale pasyłaje jaho da druhoha na zarabotak — na jaho miesca biare pracaŭnika čužoha.

U Danii siarod nasielnictva niama kastaŭ (klasaŭ „vyšejšych" i „nižejšych" — r e d.), jość tolki padzieł pracy i to tolki ŭ časie zaniatkaŭ. Pa pracy niama pastucha, słuhi, dyrektara, dochtara, haspadara — usie razam baviacca i na roŭnaj stupieni adzin druhoha ŭvažajuć.

Dzień pracy ŭ haspadarcy ŭletku i ŭzimku tryvaje 10 hadz. Pa 6-taj hadzinie viečaram rabota ŭ cełaj Danii, na vioscy jak i ŭ mieście, susim spyniajecca. Ludziej siała ad ludziej miesta ŭ mieście nie adroźniš.

Treba pry hetym zaznačyć, što kožny bolšy haspadar maje svajo aŭto, jahony pastuch maje matacykl, a ŭsie damaŭniki — rovery. Ad roveraŭ niama nijakich padatkaŭ. Ziadziejstva jość tam nadzvyčajnaj redkaściu; kali jość vypadki, to heta najčaściej haścinnyja pastupki čužaziemcaŭ.

Na zakančeńnie hetych paru ahulnych uvahaŭ ab danskaj vioscy chaču zaznačyć, što i narod danski nie adrazu stanuŭ na takuju vyšyniu, jak ciapier. Danskaja vioska siemdziesiat para hahoŭ tamu nazad pačała budzicca da supolnaha dziejańnia — ułaściva ŭ časie vialikaj biady. Dyk chaj-ža i nas siańniašniaja katastrafalnaja biada navučyć rozumu, što čym horš paadzinočku, tym bolš treba harnucca ŭ hramadu, arhanizavacca. Kryzys chaj nas prakanaje, jak heta było ŭ Danii, što kooperacyja i rachunki, škoła i knižka heta adzinaje lakarstva na biadu i zabyćcio vioski. *(Cz. S. R.)*.

# Сельская гаспадарка.

## Аб зімаваньні трэба думаць ужо вясной.

Перадусім што такое само зімаваньне? Пад словам зімаваньне разумеем пратрыманьне і пракармленьне праз зіму ўсяго жывога інвэнтара ў гаспадарцы. — Вось-жа, каб гэты інвэнтар (каровы, коні, авечкі і г. д.) сапраўды прынасіў у гаспадарцы карысьць, а ня быў звычайным унярухомленым і замарожаным капіталам, ён мусіць мець круглы год адпаведны корм і дагляд і ні ў якім выпадку ня можна быць зданы на ласку лёсу. А ў нас, быццам на злосьць, якраз пракармленьне жывога інвэнтара, асабліва ўзімку, залежа ад сьляпога выпадку: ураджаю ці неўраджаю перадусім сенажацяў. У рэзультаце гэтага блізу цэлая доўгая наша зіма для гаспадарчага выкарыстаньня жывога інвэнтара так як і страчана, а вясной выходзяць з хлява ня штукі быдла, а самыя толькі „хвасты,“ якія ледзь-ледзь трымаюцца на нагах, а то і валяцца ад ветру. Ясна, што ад гэтак трыманага інвэнтара карысьці ня будзе ніякай, а толькі хлопат, асабліва сягоньня, калі на рынку цэняцца і знаходзяць збыт толькі прадукты першай якасьці. Разумее гэта часта і сам наш гаспадар, ды ня ведаючы як сабе парадзіць, уздыхае толькі, рухлівейшым суседзям спад цішка пазайздросьціць і... на гэтым канчаецца „шуканьне“ выхаду з бяды.

Але гэта ня выхад: выхаду трэба шукаць у абдуманым забясьпечаньні жывога інвэнтара патрэбным кормам. Пачынаць-жа гэта трэба ўжо цяпер, вясной, пры ўкладаньні пасеўнага пляну. На пракармленьне жывога інвэнтара самым толькі ўраджаем нашых дзіка трыманых сенажацяў рахаваць ня можна: патрэбна апека над сенажацямі і дапаўненьне іхнага ўраджаю расьлінамі пасеўнымі на ворных палёх. І адно і другое трэба рабіць зараз-жа, вясной.

У справе апекі над сенажацямі зрабіць ужо шмат ня можна (позна!). Але ня можна пакідаць і без нагляду. Калі сенажаць яшчэ падсподам умерзшы, а наверсе ёсьць шмат моху — першая справа гэта выдзерці гэты мох звычайнай бараной з даўгімі, вострымі жалезнымі зубамі. Выбаранаваны гэтак мох ёсьць вельмі добрым матэрыялам да скомпаставаньня. Дальшай работай на сенажаці ёсьць уласьцівае баранаваньне — таксама пакуль ня рухне яшчэ расьці трава, — якая мае на мэце даць доступ паветра да карэньняў травы. Але тут трэба ўжо быць асьцярожным (на тарпавіне)... Затое тарпавіна будзе ўдзячна за валаваньне (уцісканьне валам).

Збаранаваную сенажаць трэба пагнаіць, хоць вясьнянае гнаеньне, уласьціва кажучы, будзе памоцным аж на наступны год. Страшна сягоньня ўспамінаць аб патрэбе ўжываньня штучных гнаёў (паташовых), ды яшчэ на сенажаці, калі гэтых гнаёў няма нават і пад бульбу. Але на добры лад на гэктар сенажаці 6 мяшкоў каініту даць трэба.

Калі можа быць якаясь вымоўка прад ужываньнем гнаёў купляных, дык ня можа быць гэтай вымоўкі проці застасаваньня гэтак цэнных на сенажацях: п о п е л у (на гэктар 5—10 q) або добра перапрэўшага к а м п о с т у (на гэктар 20—50—80 вазоў).

Апека над сенажацямі не канчаецца і на пагнаеньні: яна патрэбна ўсьцяж і добра аплачваецца таму, хто каля яе не лянуецца. Час-ад часу трэба падабраць з сенажаці каменьні, выкарчаваць кусты, раскідаць лапатай кратовыя кучы і зраўняць розныя курганы, а галоўнае — адрозьніваць сенажаці ад пасьбішчаў, бо нічога так ня нішчыць сенажаці, як вясьняная паста: хто не пакіне прадпатаповага звычаю ўважаць сенажаць за пасьбішча, таму няма ніякага сэнсу пачынаць наагул штосьці рабіць на сенажаці. Дзеля таго перш чым пачынаць наагул штосьці рабіць у сэнсе папраўкі сенажаці, трэба перастаць рахаваць яе як часовае хоць-бы толькі пасьбішча. Гэта канешнасьць!

Гэтулькі што да сенажацяў. Сказана было аднак, што нашы сенажаці ня ўсюды могуць выжывіць ані нашых скромных кароў. Дзеля таго трэба агледзецца і пашукаць пабочных спосабаў пракармленьня быдла праз зіму і недахоп сена замясьціць засевам канюшыны, сэрадэлі, кармовага бурака, морквы і г. п.

У нашых кліматычных варунках трэба рахавацца з канешнасьцю трыманьня, а ўласьціва — кармленьня скаціны ў хляве праз 6—7 месяцаў часу. Рахуючы па 4 кілё сена на штуку ў дзень, трэба на зіму мець на штуку быдла каля 9 q сена. Калі сена ў гаспадарцы няма сусім, або калі яго ёсьць толькі для каня і авечкі, дык недахоп гэты трэба дапоўніць канюшынай, або якой іншай пашнай расьлінай. Прымаючы пад увагу, што сярэдні ўраджай чырвонай канюшыны з гэктара выносіць каля 60 q (375 пудоў, або 37 з паловай беркаўцаў), лёгка вырахаваць, што на пракармленьне ўзімку аднэй каровы трэба засеіць канюшынай, загон поля ўдаўжкі 55 мэтраў, а ўшыркі—30 мэтраў (1650 квадр. мэтраў*). Зразумелая рэч, што калі ёсьць у гаспадарцы пэўная часьць сена ці якога іншага корму, напр. сэрадэлі, дык засеў канюшыны можа быць меншы ад толькі што

---

*) Даўжыня і шырка поля можа быць іншая. Трэба толькі глядзець, каб шырка і даўжыня поля ў мэтрах, памножаныя на сябе, далі капя 1650 кв. м. напр. 110 памножыць на 15, 165 на 10, і 330 на 5 і г. д.

вырахаванага. Зазначыць толькі трэба, што ўраджаі сэрадэлі бываюць звычайна няпэўныя і рахаваць яго можна на гэктар ня больш 25—30q (155—185 пудоў) (q=100 кілё).

Дзе грунты адпаведныя да гадаваньня кармовых буракоў, там рахунак для аднэй каровы можа быць гэткі: добрая карова спатрабуе і аплаціць у дзень 20 кілё буракоў. За зіму (200 дзён) гэта выйдзе 20 кілё × 200=4000 кілё або 250 пудоў. Пры сярэднім ураджаі буракоў 500 q з гэктара, для аднэй каровы трэба засадзіць буракамі 800 квадр. мэтраў поля (10 м. ушыркі × 80 м. удоўжкі, або 5 м. × 160 м. і г. п.).

Урэшце пытаньне падсьцілкі, на якую ў нас блізу выключна ўжываецца салома. Да таго-ж салома йшчэ ўжываецца і як корм. Усяго разам на адну карову рахуецца на зіму 15 q (95 пудоў) і на падсьцілку ўлетку 5 q (30 пудоў), разам 20 q (125 пудоў) саломы. Гэткае мноства саломы звычайна павінен даць 1 гэктар азімін або паўтара гэктара яравога збожжа. Але на нашы варункі гэты абшар трэба было-б павялічыць блізу на палову.

Акрамя таго яшчэ патрэбна салома на папраўку стрэхаў старых і пакрыцьцё новых.

Гэтак і падобна мяркуючы ня трудна аблічыць свае запатрэбаваньні на цэлы год наперад, асабліва калі такое аблічэньне робіцца ўжо ня першы раз і гаспадар здабудзе ў гэтым сваю ўласную практыку.—Трэба за гэта брацца і нашаму беларускаму земляробу. Мінуць тады ўсякія неспадзяваныя „неўраджаі" і патрэбы помачы з боку, якія вучаць нас не гаспадарыць, а — жабраваць.

*А. К.*

## Асьцярожна пры пераходзе ад сухога корму да зялёнага!

Усякі раптоўны пераход праціўны прыроднаму парадку. Прырода за гэта мсьціцца, а нясьведамы чалавек церпіць ды ўскладае віну то на „благія вочы," то на „чары," то яшчэ на штосьці іншае.

Вось хоць-бы такая простая і штодзенная здавалася б рэч, як вясьнянае выганяньне ў поле быдла і наагул свойскай жывёлы, кормленай праз зіму ў хляве. Паўтараецца-ж гэта з году ў год, а колькі тут проста карыгодных забабонаў, замест спадзяванага і гэтак патрэбнага разуменьня сапраўднай істоты рэчы!—Той, хто мае корму мала, выганяе сваю худобу (скаціну) як толькі згоніць сьнег, жывёла аднак хоць і хоча адразу накінуцца на сьвежы корм, ня можа, бо яго яшчэ досыць няма.

Гаспадар багацейшы на корм з выганяньнем звычайна не сьпяшаецца і выходзіць з скацінай тады толькі, калі на полі ўжо сапраўды ёсьць па чым пасьвіць, скаціна такога гаспадара ўтрымана звычайна добра і весела кідаецца на сьвежую пашу. Цешыцца з гэтага сама скаціна, цешыцца і чалавек, што гэткую скаціну вясёлай і здаровай бачыць. Радасьць аднак кароткая: за дзень-два скаціна раптам расхвараецца, страціць малако, відавочна худзее. —„Што сталася?" — „Пашкодзілі — кажуць—вочы і людзкая зайздрасьць." Цемната і забабоннасьць людзкая, радуйся! А ты, чалавеча, гаспадар добра перазімованай каровы, ведай, што прычына тут ня „вочы" людзкія, ані іхняя „зайздрасьць," а твая собская непразорнасьць. Прычына ў тым, што ты вольна пусьціў карову прывыкшую да зімовай **сухой** пашы раптам на **сачыстую** пашу зялёную: раптоўная перамена пашы выклікала забурэньне страўных органаў, якія ня мелі на пагатове тых сокаў, якія патрэбны для пeратраўленьня сачыстае пашы. Таму гэта паша ня можа быць страўленай, ці йнакш кажучы, наступіла ў скаціны самым гаспадаром завіненая **нястраўнасьць**.

Усьцерагчыся ад апісанай нястраўнасьці даволі лёгка: прызвычайваць вясной скаціну да сачыстага корму трэба памалу. Калі скаціна трымаецца і корміцца ў хляве, дык пачынаць даваць зялёную сачыстую пашу парэзаную на сечку, зьмяшаную з сечкай сухой. Цэлы пераход павінен быць разложаны больш-менш на два тыдні. Прымешка сечкі з зялёнай і сачыстай травы першага дня павінна быць сусім малой і што дня зьвялічваецца так, каб цераз два тыдні ўся порцыя магла быць з пашы зялёнай.—Калі-ж узноў скаціна пасецца ў полі—а гэта ў нас сягоньня блізу што правіла — дык пераход ад сухой пашы да зялёнай адбываецца гэтак: скаціна спачатку дома накорміцца на суха, а пасьля выганяецца на пасту, спачатку на кароткі толькі час. З часам пакідаецца скаціна на полі даўжэй, а порцыя сухой пашы прад пасьбішчам штораз зьмяншаецца. І так далей, аж пакуль не пяройдзе цалком на пашу зялёную, як пры разгледжаным ужо кармленьні ў хляве.

Хто гэтак уважна паступае, таму ніколі „благое вока" ня шкодзіць, бо такога вока няма.

Захварэўшую вясной на нястраўнасьць скаціну трэба ўзноў пакінуць у цёплым хляве, карміць малымі порцыямі лёгка-страўнай пашы (добрае сена і мучныя поліўкі), або нейкі час сусім прытрымаць на галодна. Агулам-жа лепш ад хваробы сьцерагчыся, як ад яе лячыцца.

**С. Яновіч.**



# Прад саджэньнем бульбы.

*Радзей садзіць, ня рэзаць!*

Фальшыва зразуменая ашчаднасьць падсказвае нашаму земляробу садзіць бульбу парэзанай ня толькі на дзьве, але наваті на тры-чатыры часьці. Пры гэтым „ашчаджаецца“ ня толькі садзьба, але і месца, бо парэзаныя чвёрткі бульбін ўласьціва кажачы ня садзяцца, але фармальна сеюцца (садзяцца вельмі густа). У выніку гэтага ўраджаі бываюць найчасьцей вельмі няўдалыя як што да ліку, так і што да якасьці. Усе намовы рабіць інакш, г. зн. садзіць бульбу ц э л у ю і р а д з е й звычайна адбіваюцца ад вушэй, як гарох ад сьцяны, бо селянін наш, з натуры сваей аж праз меру недаверчывы, не павера пакуль не пабачыць, а і пабачыўшы нават яшчэ ня надта пасьпяшыць. Дзеля таго і мы тут ня думаем бавіцца ў красамоўства, а возьмем у помач справаздачу аднаго дасьледчыка, падмацаваную цыфровымі данымі, надрукаваную ў віл. „Tyg. Roln“ № 9—10. Вось-жа датычны дасьледчых піша гэтак: „На пагноенай, але запушчанай зямлі на 10-цёх квадратных мэтрах (10 мэтраў удаўжкі і 10—упоперак —р э д.) пасаджана была цэлая бульба сярэдняй вялікасьці ў адлежнасьці адна ад другой 50 см.×50 см. (г. зн. як баразна ад баразны, так і ў барознах бульбіна ад бульбіны былі на адлежнасьці 50 см. — р э д.). На другім такім самым загончыку побач і на такой-жа адлежнасьці як барознаў, так і бульбінаў была пасаджана бульба парэзаная папалам. На трэцім загончыку (таксама 10 кв. м.) пасаджаны былі таксама палоўкі бульбін, але ў адлежнасьці 50 см.×на 30 см. (баразна ад баразны 50 см., а бульбіна ад бульбіны ў барознах—30 см. —р э д.), г. зн. так, як у нас садзяць паступовыя гаспадары.

З першага загончыка сабрана было 17 кілё, з другога — 13 кілё, а з трэцяга 15 кілё. Знача, найбольшы ўраджай дала бульба саджаная цэлай, а надвыжка гэтага ўраджаю, у параўнаньні з ураджаем загону засаджанага ў адлежнасьці 50 см.×30 см. бульбай рэзанай папалам, выносіла 2 кілё на 10 кв. м., або на адным гэктары 20 q (адзін q=мэтр. цэнтнар=100 кілё)—або больш 120 пудоў).

У іншым месцы, на лепшай зямлі, зроблена была таксама проба, ды даданы быў яшчэ чацьвёрты загон, на каторым была пасаджана бульба цэлая ў адлежнасьці 50 см.× 50 см., але яе не абкопывалі, а толькі нішчылі ўсякае пустазельле (палолі траву). Загоны мелі паверхню таксама па 10 кв. м. І вось, бульба цэлая, саджаная ў адлежнасьці 50 см.×50 см. дала ўраджай 24 кілё; бульба кроеная папалам і пасаджаная ў адлежнасьці 50 см.×50 см., дала ўраджай 13,5 кілё; бульба рэзаная папалам і саджаная ў адзежнасьцях 50 см.×25 да 30 см. (баразна што 50 см., а бульбіны ў баразьне — што 25—30 см.), дала ўраджаю 17 кілё; цэлая, але не абкопываная бульба дала ўраджаю 14 кіл. Акрамя таго бульба рэзаная прад саджэньнем папалам дала ўраджай дробны, а бульба цэлая дала ўраджай буйны. Бульба цэлая, у параўнаньні з кроенай ды саджанай густа, дала надвыжку аж 7 кілё (на 10 кв. мэтраў!). Інакш кажачы, на лепшай зямлі ад зьмененага спосабу саджэньня, ці лепш—садзьбы, можна мець карысьці йшчэ больш шыя. На гэктары надвыжка гэта ў дадзеным выпадку дала-б 70q або 420 пудоў, з чаго павінен бы быць задаволеным ужо нават і вельмі пераборлівы земляроб.“

Гэтыя лічбы здольны пераканаць хіба і „нявернага Тамаша.“ Але для большай пэўнасьці і каб за няўдачу ня зваліваць на нікога віны, хай сёлета йшчэ кожны гаспадар зробіць сам у сябе толькі што апісаныя пробы. Калі гэтыя пробы ды будуць праведзены добра (аднолькавы грунт, старанная работа), дык вынікі могуць быць запэўнены. Паправуйце, а аб выніках пробы напішэце ўвосені ў „Самапомач.“ —ч.

# Крыху аб пшаніцы-ярыцы.

Пшаніца-ярыца ёсьць расьлінай добрых, часта гноеных, не засухіх, ані залёгкіх, сярэдне-глінкаватых грунтоў. Найлепш сеіць пшаніцу пасьля акопнінаў (па бульбе і бураках), саджаных на хляўным гнаі, або пасьля матыльковых (канюшыны, гароху і т. п.). Сьвежага хлеўнага гною, асабліва кладзенага вясной, пшаніца-ярыца ня любіць.

Пшаніца-ярыца вельмі чуткая на вясьняную сухамень (засуху) і таму трэба яе сеіць якмага раней, а ральлі пад яе ня можна вясной пераворываць. Поле мусіць быць заарана ўвосені, а вясной трэба яго толькі ўспульхніць, (найлепш драпаком) забаранаваць і сеіць — пад барану. Цяжка радзіць сягоньня, але ў нормальных часох вельмі аплачвалася даваньне пад пшаніцу-ярыцу штучных гнаёў. Пасьля вясьнянага успульхненьня (драпаком) даюцца на гэктар 3 мяшкі (па 100 кілё кожны) супэрфосфату, а на полі пасьля каласістых збажавінаў—яшчэ і 100 кілё азотняку. Гнаі гэтыя прыбаронаваюцца і тады прыходзіць самая сяўба, якая з увагі на тое, што пшаніца—ярыца слаба кусьціцца, мусіць быць даволі густой: пры шырокім пасеве (з рукі) на гэктар даецца 220 і 250 кілё.

Пшаніца-ярыца вельмі ўражлівая ня толькі на сухасьць, але і на вясьняную слоту (нападае іржа). Ды і наагул гэта расьліна ў нашым клімаце даволі няпэўная: дзеля

таго трэба быць вельмі асьцярожным пры выбары сяўбы і высьцерагацца ўсякіх „навінаў“ захваляных чужынцамі. Найлепш браць сяўбу ад недалёкіх суседзяў, якіх грунты і іншыя прыродныя варункі падобныя да нашых. — Абышоўшую пшаніцу-ярыцу трэба прыбаранаваць лёгкай бараной, а пасьля гэта баранаваньне паўтарыць, калі пшаніца пачне кусьціцца.

З двух аснаўных сартоў пшаніцы ярыцы: вусаткі і голай — першая мае большае зярно і наагул больш ураджайная, а голая— менш сыпіцца і лепшы дае прыпёк.

А. К.

# АГАРОД.

Невялікі агарод, які мае кожная гаспадыня каля сваей хтаы, мусіць быць, так выкарыстаны, каб даў як найбольшы лік здаровага ды смачнага варыва на круглы год.

Дзеля гэтага трэба зьвярнуць увагу перадусім на тое, што як і ў полі, так і на агародзе павінен быць захаваны падзел — пладазьмен.

Немагчыма сеяць усё разам: на адным загоне і буракі і шальбабоны (фасоля) і агуркі, а ўсё падсеена макам-самасеям. Трэба помніць, што кожнае варыва патрабуе іншых варункаў, іншага ўгнаеньня. Агуркі, напрыклад, вымагаюць добра ўгноенай зямлі, рэдкага пасеву, адкрытага сонечнага мейсца і шмат вады, у той час як шальбабоны могуць расьці на горшай зямлі, а ад лішняй вільгаці гніюць.

Найлепш кожнае варыва сеяць на асобным загоне, тады найлягчэй кожнаму даць адпаведны дагляд. Асабліва трэба высьцерагацца засьмечываньня агароду макам самасеям. Мак мае даўгое і грубое карэньне, якім цягне з зямлі вельмі шмат спажыўных сокаў з крыўдай іншага варыва, а карысьць ад яго дробненькіх зярнятак невялікая. Лепш узяць адзін, ці калі ёсьць мейсца — і больш добра ўгноеных загонаў і пасеяць добрага маку, які дае вялікія галоўкі з вялікім лікам буйных зярнят. Сеяць найкарысьней радамі і як ўзойдзе—перарваць дзе густа, каб кожнае каліва свабодна разрасталася.

Немалое значэньне мае выбар насеўку. Трэба сеяць толькі гатункі найлепшыя, найсмашнейшыя, бо яны будуць найкарысьнейшымі для нашага здароўя. Замест белых (кармовых) буракоў, якія бачым на вясковых гародах, сеяць буракі цёмна-чырвоныя - Эрфурцкія, даўгія (г. зв. гаспадарскія). Растуць яны вялікія, салодкія і дзеля гэтага спажыўныя.—Яшчэ лепшыя ды саладзейшыя, толькі невялікія буракі Эгіпскія, плоскія.

Морхва адна з найлепшых—Нантэйская поўдаўгая; чырвоная, з тупым канцом.

Шальбабоны вельмі добрыя высокія, тычныя, пад назовам „Яська.“ Адпорныя на халады і дажджы. Даюць добры ўраджай. Струкі маюць вялікія, з белым надта буйным зярнём.

Вельмі было-б карысна, каб нашы гаспадыні садзілі хоць пакрысе пятрушкі (цукровая кароткая—самая раньняя). Пятрушка дадае смаку стравам такім напр. як булён, крупнік і г. п., а таксама нярaз бывае патрэбнай, як хатняе лякарства. Усходзіць яна вельмі доўга, дзеля гэтага трэба рана сеяць, добра таксама на пару дзён перад пасевам намачыць насеньне пятрушкі, завязаўшы ў рызінку, у вадзе.

Аб гатунках агуркоў ды цыбулі, гаварыць ня варта, бо яны заўсёды будуць добрыя, калі іх добра даглядзець. Трэба толькі ўспомніць аб капусьце. Варта садзіць і пасьпешку і зімовую. —З першых, найлепшая, найранейшая „Слава;“ з зімовых-жа— Брунсьвіцкая—дае вялікія, вельмі сьціслыя галоўкі, белыя, з маленькімі качарыжкамі.

Шчыра радзім нашым гаспадыням прыдбаць добрага гатунковага насеньня. Выдаткі гэты аднаразовы, бо надалей можна лёгка садзіць гэтыя гатунковыя высадкі ў сябе і мець свой насевак.

Шмат якое, высокаякаснае па сваей спажыўнасьці варыва ня мае яшчэ застасаваньня ў нашым вясковым жыцьці. Дык прынамсі тое, што ўжываецца няхай будзе якнайлепшага гатунку.

Л. В.

## Сад трэба таксама гнаіць

Аж прыкра прыпамінаць аб гэтым, што большасьць нашых уласьнікаў пладовых дрэваў бачыць гэтыя апошнія тады толькі, як на іх пакажыцца больш ці менш пладоў: яблыкаў, ігрушак і г. д. Ня хочуць аднак людзі зразумець, што плады гэтыя з нічога ня могуць завязацца, а тым больш дасьпець. Дзеля таго, каб ураджай у садку быў кожны год пэўным, каб не здаралася такое зьявішча, што на дрэве поўна цьвету, або і пакажуцца завязі, а пасьля ўсё гэта бяз відомай прычыны возьме ды й абсыплецца, — каб гэтага ня было, трэба пладовыя дрэвы рэгулярна і што год гнаіць.

Угнаеньне — ня толькі саду, але і ўсякае іншае — мае за заданьне „падкарміць“ глебу чатырма аснаўнымі сучасткамі, кожная з каторых мае сваё асобнае празначэньне. Гэтыя сучасткі наступныя: азот, фосфар, паташ і вапна. Азот (N) падганяе перадусім рост самой расьліны ці дрэва. Надбытак азоту вызначаецца цёмназялёнай ахварбоўкай лісьця, а пладовае дрэва даўжэй расьце не даючы пладоў. Фосфар (P) у проціўвагу азоту змушае быццам дрэва выдаваць плады, пладзіць. Паташ (K) умацоўвае самое дрэва (расьціну), гартуе яго прад марозам, а пладом надае прыгажэйшы выгляд і адпаведны

пладовы пах. Чым лягчэйшая зямля, тым бяднейшая бывае на паташ. Урэшце **вапна** (Са) патрэбна ўсякай расьліне ня гэтулькі можа як прадукт спажыўны, колькі як спосаб адпаведна прыгатаўляючы глебу (нэўтралізуе квасовасьць глебы, папраўляе ейную будову і г. д.).

Усе гэтыя сучасткі, раз у большай, іншы раз у меншай меры знаходзяцца ўдобра перагніўшым хляўным гноі, або ў сьпелым кампосьце. Дзеля таго рэгулярнае гнаеньне гэтымі гнаямі блізу поўнасьцю здавольвае гнойныя запатрэбаваньні расьліны.

Там аднак, дзе гэтых **натуральных** гнаёў не хапае, там трэба ўжыць гнаёў гэтак званых штучных, з каторых кожны мае ў сабе пераважна адзін толькі з пералічаных гнойны складнік. Гнаеньне саду штучнымі гнаямі аплачываецца нават сягоньня. Толькі застасаваньне гэтых гнаёў ня так простае: даючы адзін з іх, трэба даваць і іншыя, бо йнакш можна напр. праэмерным гнаеньнем азотнымі гнаямі спазьніць пладаноснасьць дрэва, або фосфарнымі — занадта гэту пладаноснасьць прысьпяшыць і г. д. Але аб гэтым далей.

Як само гнаеньне праводзіць? — Дрэва ўбірае ў сябе сілу пераважна пры помачы канцавых частак сваіх карэньняў. Дзеля таго і гною пад дрэва ня можна абкладаць цесна каля пня, але па акруглай лініі кароны (процi сукоў). Мала таго. Карэньні дрэва знаходзяцца глыбака пад зямлёю, дык і гной трэба класьці не наверх зямлі, а закапываць яго глыбей. Практычна гэта робіцца або пры помачы раўкоў кругом дрэва па лініі кароны, ці асобных ямак. Раўкі такія робяцца ўглыбку на 50—70 сантымэтраў (асьцярожна, каб не параніць карэньняў), у іх кладзецца гной (але ня сьвежы), або сьпелы кампост і прываецца зямлёй. Калі дрэвы пасаджаны радамі, дык равы капаюцца ня круглыя, а простыя і накрыж паміж дрэвамі. Вынік тойсамы: дрэва абкружана будзе ровам з 4-ох бакоў, а равы такія лягчэй выкапаць, бо да гэтага можна ўжыць глыбокай воркі канём.

Вельмі цэнная ўрэшце пад пладовыя дрэвы гнойная жыжка, або самая мача, ці ўрэшце разьведзены папалам з вадой чалавечы гной (прад тым перасыпаны сухой пакрышанай тарпавінай). Гэткую жыжку найлепш залiваць у загадзя выбраныя ямкі двойчы: раз — прад распусканьнем лістоў і другі — пасьля адцьвітаньня.

Попел з дрэва замяняе штучныя ўгнаеньні паташовыя: закапываецца ў ямкі ці барозны.

Што датыча застасаваньня ў садзе гнаёў штучных, дык спаміж розных прабаваных мяшанак найпрасьцейшай здаецца быць наступная: на 4 кілё супэрфосфату (вясной, або тамасоўкі — ўвосені) і 40% паташавай солі на кожныя 100 квадр. мэтраў сярэдне ўзросшага саду. Гнаі гэтыя з сабой перамешваюцца, зараз-жа засяваюцца і прыкрываюцца (лапатай, або плугам). Калі дрэва расьце слаба, дык патрэбна яму таксама і ўгнаеньне азотам: даецца йшчэ 4 кілё чылійскай салетры, азотняку ці якога іншага азотнага ўгнаеньня. Толькі салетру ня можна глыбака прыкрываць.

Другой асаблівасьцяй салетры ёсьць тое, што даваць яе трэба толькі вясной і раньнім летам, калі дрэвы пакрыты лісьцём. Улетку (ад м-ца ліпня) гнаеньне азотнымі штучнымі навозамі трэба ўстрымаць, бо гэта без патрэбы ўзмацняе толькі рост дрэва і спазьняе ягоную пладаноснасьць; гнаеньне-ж азотам ўвосені падстаўляе дрэва пад небясьпеку вымярзаньня. Але васеньняе гнаеньне дрэваў гнаямі фосфарнымі і паташовымі вельмі карысна.

Пад дрэва з пладамі кастковымі (сьлівы, вішні, чарэшні) трэба дадаваць вапны разлёсаванай на парашок лічачы па 300 грамаў на 1 кв. мэтр.

*В. Р.*

# Чорная мытуха (панос) або параліж.

Гэта хвароба конская, пры каторай жывёла траціць уладаньне задам, а моч яе становіцца густой, цёмна-рудой аж крывавай. Трапляецца найчасьцей у коняў цяжэйшых, добра кормленых, калі іх пакінуць адзін ці некалькі дзён бяз руху і працы ў канюшні.

Прычыны: занадта жырнае кармленьне пры невыстарчальным руху (часта пасьля нядзелі і сьвята) і раптоўнае астуджэньне цела, дзеля чаго хвароба гэта найчасьцей здараецца у зімную пару году (асабліва калі сьцюжа наступіць раптоўна, нечакана або ад працягу — рэд.).

Азнакі хваробы: хутка пасьля запрэжкі (1/4—2 гадз.) коні пачынаюць сланяцца ў задніх нагах, плютаюцца, спатыкаюцца, пужаюцца, пачынаюць пацець і трасьціся. Скора пасьля паваляцца на заднія ногі і ня могуць устаць. Мускулы цэлага заду становяцца напятыя і цьвёрдыя, чуласьць (на боль) у гэтай часьці аслабленая або і сусім знікае. У міжчасе конь мочыцца досьць часта кавова-рудой аж чорнай мачой. З часам падымаецца таксама і гарачка.

Ток хваробы: Шмат коняў гіне ад гэтай хваробы за некалькі дзён і вылечываецца толькі малая часьць.

Лячэньне: Як толькі заўважацца першыя азнакі хваробы і покуль яшчэ конь паваліцца, трэба пастарацца ўвясьці яго ў цёплы хлеў, груба і добра падсьцелены; тут трэба яго нацёрці флюідам або растворам камфору ў сьпірце і даўжэйшы час расьціраць саломенымі вехцямі, а пасьля нечым цёплым прыкрыць. Калі-б конь пробаваў устаць, трэба яму ў гэтым памагчы і па магчымасьці ўтрымаць яго стаячым пры помачы падпор-

нага ці вісячага устройства. Калі гэта ўдасца, ёсьць надзея на вылячэньне; калі-ж аднак конь даўжэйшы час ляжыць, хвароба канчаецца звычайна сьмерцю. — Дакладнейшае лячэньне можа правесьці лекар-вэтэрынар: пусканьнем крыві, адбіраньнем мачы, даваньнем адпаведных лекаў агульных і на прачышчэньне і г. д.

Каб усьцерагчыся хваробы, радзяць ніколі не пакідаць цяжкіх, добра кормленых многакроўных коняў даўжэйшы час у канюшні бяз руху, але штодзень, таксама ў нядзелю і сьвята, праваджіць іх ці праяжджаць, а да таго йшчэ ў непрацоўныя дні менш карміць.

Д-р. Ю. Зайфэрт.

## Як у розных краёх гадуюць куранят.

Пасьля выхаду з яйка куранё не патрабуе больш нічога, як толькі цяпла і спакою. Толькі пасьля 36 або нават і 48 гадзін яно павінна дастаць першую ежу.

Найчасьцей на першы раз даецца г. званы яечны тварог. Гэта яйко разбаўтанае з малаком і моцна нагрэтае; яйко згусьцее і дасьць нешта падобнае да тварагу, які адцэджваецца і даецца куранятам або адзін, або зьмяшаны з сыпкой, зваранай на малацэ, рыжовай кашай. Гэтак кормяць у Францыі і Нямеччыне.

У Амэрыцы даюць на першы раз яйко цьвёрда зваранае ды дробненька пасечанае разам з шалупінай, у сумесі з гэтак званым „гэркулесам" — аўсянай кашай. Гэтакую ежу даюць ў працягу 3-х дзён. Пасьля апрача яе даюць яшчэ сухую мяшанку, якая складаецца з дробна меленай пшаніцы, кукурузы, гароху, дробнай аўсянай кашы, дробнага рыжу, пяску і вугля.

Пасьля трох тыдняў замест яек даюць мяшанку, у якую ўходзяць пшонныя вотрубы, мука з кукурузы, льняны макух, мука з люцэрны ды розныя зьвярыныя адпадкі: кроў, сечанае мяса і г. д. Пасьля 5—6 тыдняў пераходзяць на пшаніцу і груба меленую кукурузу.—Гэтак кормяць у Амэрыцы, падчас, калі ў Францыі пасьля некалькіх дзён кармленьня яечным тварагом, даюць рознае „цеста," ў склад якога ўваходзяць: мука ячменная, мука з кукурузы, сухая булка размочаная ў малаце, крышачка солі, меленыя косьці, дробненька пакрышаная цыбуля.

Як бачым, кожны край мае свае спосабы. У адным толькі згаджаюцца гадаўцы ўсіх краёў, як Францыі, Нямеччыны так і Даніі, Бэльгіі і Чэхаславаччыны, гэта ў поглядах на вялікую спажыўную вартасьць малака, якое і даюць куранятам піць замест вады. Таксама вельмі карысна даваць малако кіслае сьвежы тварог.

Зразумела, што гадаваньне адным з заграмічных спосабаў мала каму ў нас можа быць даступным. Дзеля гэтага дадаю некалькі агульных увагаў, якія магчыма прыгадзяцца нашым гаспадыням.

Як было сказана ў пачатку гэтага артыкулу, ня трэба даваць куранятам есьці раней чым ў 36 або 48 гадзін пасьля выхаду з яйка. У першыя дні даваць або яечны тварог, які прыгатаваць ня трудна, або сухія ячменныя дробненькія крупы і малака да піцьця. Добра даваць далей ўсялякія кашы вараныя на малацэ. Апрача кашаў неабходна даваць розныя сухія мяшанкі, у склад якіх павінны ўваходзіць: дробныя крупы аўсяныя, ячменныя ды грэцкія (грычаныя), канаплянае семя, меленыя косьці, таўчоны вуголь, дробна пакрышаныя шалупіны ад яёк. Вельмі карысна даваць пакрышанае сырое або варанае мяса, а таксама яйкі мурашак.

У ежы куранят важнае мейсца займае розная зелень: напр. маладое лісьцё крапівы, сэрадэлі, канюшыны і малачаю, а ўжо ніколі не павінна не хапаць зялёная або і старая цыбуля, якая памагае траўленьню і проціўдзеіць розным хваробам. Наагул кажучы, чым большая рознаякасьць будзе захаваная пры выбары корму, тым лепшых вынікаў можна спадзявацца.

Л. В.

## Каб курыца не квактала.

Няўмеснае квактаньне курыцы гэта не малы клопат для гаспадыні, якая хацела-б, каб курыца нясласе. Дзеля таго шмат ёсьць розных спосабаў адвучаньня курэй ад квактаньня і ўсе яны зводзяцца да таго, каб квокаючую курыцу „астудзіць". Пашыранае даволі трыманьне квокаючай курыцы ў вадзе ёсьць цяжкім да правядзеньня, няпэўным у скутках і падазроным што да ўплыву на здароўе гэтак студжанай „на мокра" курыцы.

Дзеля таго далёка большай увагі заслугоўвае спосаб студжэньня „на суха". Выглядае ён гэтак: квокаючая курыца ўсаджываецца ў сумысна прыгатаваную клетку, якая розьніцца ад клеткі звычайнай тым, што дно яе, таксама як і бакі, зроблена з пруткоў ці з рэдка ад сябе расстаўленых вузкіх шчэпак. Ў гэтак прыгатаваную клетку ўсаджваецца квокаючая курыца, а клетка сама вешаецца нейдзе на правеўным месцы, напр. у садку на дрэве. Дно клеткі робіцца сітавым на тое, каб курыца магла праз яго бачыць усё, што пад ёй робіцца, — і сваіх-жа таварышак-курэй ходзячых на волі, да каторых урэшце захочыцца ёй пайсьці і дзеля чаго, пад уплывам правеву, праз 2—3 дні пакіне нават думку аб квактаньні.

Хто ня верыць, хай праканаецца.

## Падкармліваньне пчол на сілу.

Хочучы каб пчолы выкарысталі якнайлепш і вяснавы і галоўны пажытак, трэба, каб іх была ў вульлі вялікая сіла.

Пры добрых варунках, г. зн. калі пчолы маюць вясной вялікі запас мёду (да 6 кг.), могуць яны хутка і бяз помачы дайсьці да сілы. Але-ж такіх запасаў, асабліва пасьля леташняга году, нідзе ня знойдзем. Шмат якія раі трэба было нават ратаваць ад голаду. Зразумела, што ня маючы запасу ў вульлі і маленькі збор мёду і пяргі з першых веснавых кветак (пралескі, ляшчына, воўчая лыка, мядоўка, сончыкі, падбел) матка чэрыць вельмі мала і рой разьвіваецца слаба ды надзеі мець ня можна каб дайшоў да сілы перад красаваньнем клёнаў і садоў. А калі пчолы ня змогуць выкарыстаць гэтага пажытку, то ня выкарыстаюць і галоўнага, якім найчасьцей зьяўляецца грэчка. Рада адна: памагчы пчолам і падкармліваць іх на сілу.

Пачынаць падкармліваньне трэба на 6—7 тыдняў перад спадзяваным пажыткам. Падкармліваюць рэдкім цукровым сыропам — на 1 шклянку вады, палова шклянкі цукру. Пчолам, якія запасу мёду ня маюць, даецца сыроп гусьцейшы, на 1 шкл. цукру 1 шкл. вады. Даецца ўвечары па палове шклянкі сыропу на сям'ю без перарываў.

Матка, бачачы што пчолы кожны дзень маюць сьвежую спажыву, пачынае што раз больш чэрыць і сям'я хутка пабольшываецца лікам.

Шмат лепшыя вынікі атрымаем, калі будзем падкармліваць цукрам з малаком. Прыкладам няхай будзе спроба зробленая грам. Б., сябрам Т-ва „Пчала." Маючы вясной вельмі слабенькі раёк, грам. Б. пачаў інтэнсыўна (сільна) карміць яго цукрам з малаком. Сям'я пачала разьвівацца ў вачох, а 24 чэрвеня можна было яе падзяліць на два раі, якія змаглі сабраць здавальняючы запас мёду і моцнымі вышлі на наступную вясну. Падкармліваньне малаком праводзіцца так: першыя 3 дні даецца на шклянку цукру 1/2 шкл. малака; наступныя 3 дні — палову на палову, а далей — дзьве часьці малака на адну часьць цукру (1 шкл. малака, палова шкл. цукру). Даецца так як сыроп з вадой па палове шкл. на сям'ю.

Аб малако на вёсцы ня трудна, а расход на цукар многа разоў аплаціцца. Трэба толькі помніць, каб пчолам было цёпла, дзеля гэтага, як зрэшта заўсёды вясной, звузіць трэба гнёзды і ня здымаць зімовай упакоўкі.

Радзім прабаваць і вынікамі досьледаў падзяліцца з намі.

**Л. Войцікава.**

## Дбайма аб мёдазбор.

Рэдка якая ваколіца такая шчасьлівая, што да мядовых расьцінаў, каб пчолы мелі ў ёй пажытак ад раньняй вясны аж да позьняй восені. Найчасьцей бываюць карацейшыя або даўжэйшыя перарывы, якія вельмі ад'емна адбіваюцца на працы пчол. Кожны пчаляр данай ваколіцы павінен парупіцца, каб гэтыя перарывы папоўніць, падбіраючы адпаведныя гаспадарчыя расьціны, а таксама абсейваючы межы, пасекі ды розныя няўжыткі расьцінамі мядовымі.

Сеючы шмат розных кармовых расьцін, ужо тым самым прыдбаем пчолам добры пажытак.

Да добрых і карысных мёдадаяў належаць: выка, пялюшка, канюшыны: швэдзкая, белая і інкарнатка; сэрадэля, люцэрна; ды з новых у нас яшчэ ня знаных як кармавыя расьціны, але-ж вельмі карысных і на пашу і як медадаі — розныя буркуны (у нас растуць дзіка белы і жоўты). Буркун аднагадовы ці йнакш Губам: буркуны двухгадовыя белы і жоўты, ды буркун італійскі жоўты, аднагадовы.

— Сеючы грэчку добра сеяць яе ня ўсю зараз, а часткамі, праз 1—2 тыдні адну пасьля другой. Тады запэўнім пчолам даўгі пажытак.

У садку кожны пчаляр павінен старацца мець кусты парэчак, агрэсту і малінаў (калі тых апошніх дзіка растучых няма), бо гэта найлепшыя веснавыя мёдадаі.

Ёсьць шмат расьцін надзвычайна карысных для пчол, але якія гаспадарчага значэньня маюць. Іх, зразумела, нашаму малазямельнаму селяніну на полі сеяць не магчыма, але заўсёды ў гаспадарцы знойдзецца кусочак няўжытку, дзе растуць толькі асоты ды крапіва, які можна выкарыстаць абсейваючы мядовымі расьцінамі. Найчасьцей такія няўжыткі — пад платамі, хлявамі, адрынямі — маюць добрую гнойную зямлю, на якой кінутыя зярняты буйна разрастуцца і дадуць пчолам добры пажытак, асабліва, калі абсеяць няўжыткі пастараецца не адзін нейкі гаспадар, а ўся вёска.

Да такіх мёдадаяў, якія варта сеяць ня толькі каля хаты, але па межах ды па берагох лясоў, належаць „дзед" аднагадовы, ды шматгадовы, агурочнік, фацэлія, асацец грэцкі, мэліса. — Усе яны лёгка самі далей размнажаюцца.

Апрача гэтага варта зьвярнуць увагу дзяўчат, каб сеючы кветкі ў сваіх гародчыках, падумалі таксама і аб пчолах. Пасеяўшы ці пасадзіўшы рэзэду, нагаткі, мальвы, зімовыя астры, макі—краскі, белую лілею, зімовыя жоўтыя гвоздзікі орлікі, ды іншыя (большасьць кветак мядуе), будуць мець і прыгожы выгляд гародчыка, і запах—і мёд.

Зацікаўленым гэтай важнай справай Т-ва „Пчала" заўсёды можа даць патрэбныя рады і недарагое насеньне. **Л. Войцікава.**

# Ад Т-ва „Пчала“.

18 сакавіка с. г. адбыўся ў Вільні гадавы сход сяброў Беларускага коопэратыўнага Т-ва „Пчала“. Выслухаўшы справаздачу за папярэднія гады, Сход заняўся справай зьмены, ці лепш — папаўненьня статуту і разгляду пляну працы на бягучы 1934 год.

Што тычыцца пляну працы, Сход вынес наступныя пастановы:

Бяручы пад увагу, што нават у апошнія гады прымусовай бяздзейнасьці „Пчалы“ шмат пчаляроў з усіх куткоў Зах. Беларусі зварочвалася з лістоўнымі запытаньнямі аб вузу, прылады і г. п. — перадусім старацца мець гэтыя рэчы на складзе і прадаваць іх сваім сябром па магчыма нізкай цане. Далей, скупляць воск і мёд; браць воск дзеля перапробкі на вузу і выпісываць танны (дэнатураваны) цукар для падкармліваньня пчол у веснавы і васеньні сэзоны.

Ясна, што хочучы правясьці гэтыя праекты ў жыцьцё, Т-ва „Пчала“ мусіць мець абаротны капітал, які можа ўтварыцца толькі тады, калі нашы пчаляры пачнуць масава ўступаць ў сябры Т-ва.

Кожны з цяперашніх сяброў **павінен** лічыць сваім абавязкам асьведаміць пчаляроў сваей ваколіцы і запісаць іх у Т-ва „Пчала“.

Чаму „Пчала“ мусіла перарваць сваю працу? — Бо мела мала сяброў, — мала капіталу. Каб поле дало карысьць, трэба яго абсеяць. Ня ўкінуўшы ня возьмеш. Таксама і коопэратыўнае Т-ва. Не пашкадуйце-ж гэтых невялікіх паёў. Зложэце іх, а карысьць, якую ад гэтага атрымаеце, будзе вялікая.

Як відаць з працы Т-ва ў папярэднія гады, нашы пчаляры добра разумеюць і адчуваюць патрэбу фаховых парадаў, літэратуры, прыладаў, вузы і г. п. Але-ж нажаль тыя-ж нашы пчаляры ня маюць на столькі сьведамасьці, каб зразумець, што гэта ўсё яны павінны здабыць **самі сабе, стаўшы сябрамі** пчалярскага коопэратыву. Даць гэтыя выгады бяз іх **асабістага** ўдзелу і супрацоўніцтва ніхто ня зможа!

Сягоньня вузу і прылады мы мусім выпісваць з Львова, ад Украінскага Пчалярскага Т-ва „Рой“, якое ўсё гэта ў сябе вырабляе, маючы розныя майстэрні. Але яно мае **4 тысячы** сарганізаваных пчаляроў. А мы?— Што нам перашкаджае стварыць гэткую сілу?..

Магчыма, што шмат хто з пчаляроў будзе тлумачыцца пануючым сягоньня крызысам. Але на гэта мы можам сказаць адно: трэба гуртавацца, і супольнымі сіламі працаваць і выцягіваць найбольшую карысьць з нашых пчалярскіх гаспадарак, а тады і крызыс лягчэй пераможам.

Бяручы пад увагу вельмі цяжкае становішча матэрыяльнае нашых сялян, а таксама безработнай інтэлігэнцыі жывучай у вёсках ды адсутнасьць заробкаў, Агульны Сход Т-ва „Пчала“ пастанавіў унясьці ў § 4 Статуту пункт аб „арганізаваньні збору і гандлю мёда-лекарскімі зёлкамі“.

Лекарскімі зёлкамі наш край вельмі багаты. Аб гэтым найлепш ведаюць прыватныя гандляры, якія за бясцэн скупляюцьназьбіраныя нашымі жанчынамі зёлкі, адпаведна іх прыгатаўляюць і прадаюць у Польшчы або высылаюць заграніцу, зарабляючы на гэтым гандлі аграмадныя сумы. Заграніца патрабуе год ў год розных зёлак у тысячах кілёграмаў, а і тут у нас запатрэбаваньне на іх вялікае. Гэтыя запатрэбаваньні мы можам здаволіць беспасярэдна (бяз пасярэдніцтва гандляра), арганізуючы пры „Пчале“ збор, прыгатаўленьне і гандаль гэтым нашым прыродным багацьцем, прычым у нашых руках сканцэнтруюцца немалыя заробкі.

Каб пазнаёміць зацікаўленых, перадусім нашых сяброў-пчаляроў, з лекарскімі зёлкамі, зборам, сушэньнем і арганізацыяй збыту, Т-ва „Пчала“ пастанавіла наладзіць кароткія 3-тыднёвыя завочныя (карэспандэнцыйныя) курсы.

Курсы бясплатныя, толькі як зварот за паперу, друк і паштовыя кошты, кожны павінен будзе прыслаць 3 залатоўкі. Запісы „Пчала“ прыймае ўжо цяпер і як толькі набярэцца курсантаў з 20, курс пачне высылаць, каб найпазьней з чэрвеня м-ца прыступіць да працы разам з людзьмі праслухаўшымі курс.

Гэтакія намеры мае Т-ва „Пчала“, гэтакія пляны для дабра сваіх сяброў хоча правясьці. Дык да працы, браты-пчаляры! Запісвайцеся ў сябры Т-ва „Пчала“! Запісвайцеся на курс лек. зёлак! Згуртаваныя ў адну моцную грамаду, з ведай і паплатнай працай у руках пераможам усе злыдні.

**Управа**
**Кооп. Т-ва „Пчала“.**

---

**Т-ВА „ПЧАЛА“ РАСПАЧАЎШЫ НАНОВА СВАЮ ДЗЕЯЛЬНАСЬЦЬ**

1) **прыймае новых сяброў.**
2) **Запрашае правінцыянальныя коопэратыўныя і культурна-прасьветныя арганізацыя прыняць удзел у арганізаваньні збору мёда-лекарскіх зёлак.**
3) **Прыймае запісы на 3-тыднёвыя завочныя курсы па арганізацыі збору мёда-лекарскіх зёлак.**

Зварочвацца просім на адрэс:
Вільня, Каралеўская вул. 3.
**Т-ва „Пчала“.**

---

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

# Праспэкт Завочных Курсаў

**дзеля арганізацыі збору мядова-лекарскіх зёлак, ладжаных БЕЛ. КООП. Т-ВАМ „ПЧАЛА“.**

**Мэта курсаў.** Завочны курс дзеля арганізацыі збору мядова-лекарскіх зёлак мае на мэце даць адпаведную веду тым людзям, асабліва спаміж нашай вясковай безработнай інтэлігэнцыі, якія выкарыстоўваньнем дзіка растучых лекарскіх зёлак хацелі б палепшыць свой быт і быт бяднейшых сялян сваей ваколіцы.

**Час навукі** разьлічаецца на 3 тыдні. Праграма абымае 9 лекцыяў, якія будуць высылацца раз у тыдзень партыямі па 3 лекцыі ў кожнай.

**Плата.** Навука бясплатная, толькі як зварот друку, паперы і паштовых расходаў кожны з курсантаў павінен унясьці 3 залатоўкі за ўвесь час трываньня курсаў.

**Падрабязная праграма.**

I. лекцыя.

1) Гісторыя ўжываньня зёлак у лячэньні.
2) Прылады да зьбіраньня зёлак.
3) Пара і спосабы зьбіраньня паасобных частак расьціны.

II. лекцыя.

1) Арганізацыя зборных пунктаў.
2) Прылады да сушэньня.
3) Спосабы сушэньня.

III. лекцыя.

1) Перахоўваньне сухіх зёлак.
2) Перасылка.
3) Варункі аплатнасьці.

IV, V, VI, VII, VIII і IX-я лекцыі абымуць падрабязныя апісаньні зёлак найбольш у нас спатыканых і маючых найбольшае запатрэбаваньне ў гандлі.

**Кіраўніцтва курсаў.**

# Гаспадарчая хроніка.

Кірмаш на футры ў Вільні мае быць сарганізаваны сёлета ў міжчасе ад 25 жніўня да 7 верасьня. Возьмуць у ім учасьце, як чуваць, і фірмы савецкія. Апрача самых футраў будуць на кірмашы і вырабы гарбарскія.

Забаранілі варыць цукровы сыроп. Агульна ведама, што цукар, з прычыны свае дарагоўлі, блізу сусім недаступны для шырэйшых кругоў насельніцтва. З гэтае прычыны нашы сяляне-земляробы ў розных мясцох пачалі самі выварываць з цукровых буракоў сыроп, які сусім добра замяняў дарагі цукар. Фабрыканты-цукраварнікі зразумелі аднак, што хатняе вывырываньне сыропу вельмі абмежыць а то і сусім устрымае грубыя даходы цукраварняў і пачалі націскаць на Урад, каб не пазваляў сялянам выварываць у хаце цукровага сыропу, а тымсамым змусіў сялян і далей купляць дарагі цукар.

Паводле апошніх газэтных вестак польскі Урад ужо паслухаў фабрыкантаў-цукраўнікоў і міністэрства Скарбу пастанавіла караць тых сялян, якія будуць выварываць з буракоў цукровы сыроп.

Гэта насываецца „апека над малазямельнай вёскай“.

З фахова-земляробскага жыцьця украінцаў. 29.III.34. адбыўся ў Львове Агульны гадавы сход украінскага земляробскага т-ва „Сільський Господар“. Т-ва мела ў 1933 г. 73 філіі і 1410 гурткоў. Фаховая праца Т-ва вялася ў сэкцыях: агротэхнікі, зоотэхнікі, фаховага школьніцтва і выдавецтва. Скрось зазначаецца вялікі поступ. Часопісь Т-ва „Сільський Господар“ мае 9.000 наперад платных падпішчыкаў. Пры Т-ве ёсьць Сэкцыя пчалярская. Утрымлівае яна сваю фаховую часопісь „Український Пасічник“, якая мае 2.500 платных падпішчыкаў.—Т-ва працуе самаахвярна; найбольшую часьць патрэбных фондаў далі сяброўскія складкі і коопэрацыя. Прэлімінар бюджэту т-ва на 1934 г. прадбачуе ў прыходах і расходах 113.926 зл. На гэты-ж год міністэрства земляробства прызнала „Сіль. Господару“ дапамогу ў суме 10.000 зл. — Т-ва працуе над падняцьцем роўня земляробскай гаспадаркі, і праз сваіх прадстаўнікоў бароніць інтарэсы украінскага сялянства ў Земляробскай Палаце, самаўрадах і разьемчых управах.

# Наша пошта.

I. Буткевічу ў З., П. Зімніцкаку ў В., Сахарчуку ў Р. — падпісная плата на „Самапомач“ (асабліва ў камплетах па 10 экз.) так нізкая, што на недаступнасьць ня можаце жаліцца. Калі сапраўды хочаце мець газэту — мусіце для яе таксама нешта зрабіць. Калі ня маеце грошаў, ахвяруйце працу: сабраць камплет падпішчыкаў (10 чалавек) можна ўсюды, можна і ў Вас. Толькі прылажэцеся. Дарма газэты пасылаць ня можам.

Букачу У. — у М. За словы прызнаньня дзякуем. Ня верым, каб гэта „дабратлівасьць“ была шчырай. Вас толькі хочаць упрэгчы — косю, косю ды ў аглоблі — а тады ўжо гаспадаром будзеце ня Вы. Прачытайце адказ папярэдні.

Федаровічу К. ў З. — цана цэмэнту ў Вільні пасьля распаду картэлю абніжылася да 6 зл. за 100 кілё. — Лубіну салодкага йшчэ нігдзе не дастанеце: яго толькі што выгадавалі ў Нямеччыне і тымчасам нікуды яго ня вывозяць. Кажуць, што ўвосені можна будзе дастаць, але нічога пэўнага. — Пасьпяшэце з падпіскай. Спадзяёмся, што на Ваш вокруг трэба абавязкава мець адзін цэлы камплет (10 экз.) „Самапомачы“. Пастарайцеся!

В. К-ш у Ч. — Пісьмо атрымалі. Прышлеце нам пры аказіі копію Вашага рахунку, а тады мы яго аформім. Як называецца Ваша коопэратыва?

В. Лубневічу і М. З-ка. Лепш будзе, калі запішэцеся на наш Курс Коопэрацыі зараз-жа ўвосені — у першых днях верасьня. Толькі таксама не пазьнецеся.

# Увага, Пчаляры!

**Т-ва „Пчала“ прапануе насеньне мядовых расьцінаў:**

| | 10 грамаў | порцыя |
|---|---|---|
| Мэліса цытрыновая | 1 зл. | 30 гр. |
| Асацец грэцкі | 1 зл. 50 гр. | 35 гр. |
| Агурочнік | 40 гр. | 15 гр. |
| Дзед | — | 30 гр. |
| Фацэлія | 30 | 20 гр. |
| Рэзэда (пахучая кветка) | — | 20 гр. |

